# ГЭТА МЫ !



ВЫДАНЬНЕ ЗАСНАВАНА МЕНСКІМІ РАЁННЫМІ РАДАМІ МАЛАДОГА ФРОНТУ БНФ

№3

## АД РЭДАКЦЫІ

Нарэшце адбылося тое, на што доўга чакалі абодва лягеры беларускае палітычнае палітры: прарасейскі кіраваныя імпэрыялісты — з пачуцьцём вялізнага задавальненьнем, "апазыцыя" — з напаўпрыцiснутымі воклічамі фармальнага абурэньня ды адчуваньнем наканаванае нягеглясьці. Ненажэрныя піяўкі на целе Беларускае Нацыі ўрэшце ўзапраўды пачалі высмоктваць маладую кроў. Першы ў найноўшай гісторыі Беларус за свае палітычныя перакананьні ўвязьнены ў калёнію строгага рэжыму — побач з гвалтаўнікамі ды забойцамі. Хіба магла шго-кольвечы зьмяніць тая нешматлікая купка людзей, што на судовым ганку трывала пранізьлівы вецер ?!.. Тамсама былі й "правы" Адамовіч, і "левы" Шчукін. А дзе тымчасам быў "лібэральны цэнтар", ведама, напэўна, хіба ў вялікім жоўтым доме з калянадай. Падаецца, ім больш даспадобы імітаваць шчырую барацьбу зь "ненавісным" рэжымам. Сапраўды — чаго ні зробіш дзеля зьяўленьня свайго твару на экранах сыэнэнаў ды эртээраў. Але "барацьба на экспарт" — справа найперш няўдзячная. Асабліва, калі гаворка йдзе аб лёсе краіны.

Але мы не павінны менавацца нейкім там "лягерам", няхай нават і "палітычным". Бо ўлада лягерных паханоў не распаўсюджваецца далей за лягерную мяжу — калючы дрот. Мы мусім быць Пераможным Фронтам і несьці нашую Ідэю як праз вонкавую апатычнасьць насельніцтва, так і праз амонаўскія шыхты. І мы наканаваны пераможам. Гэтым мы забавязаныя перад Богам, Нацыяй і Продкамі.





**Апошнім часам у незалежнай пэрыёдыцы ўзмоцнена крытыкуюць найменьне *Беларусь* з-за асацыяцыяў зь нечым *рускім* і, адпаведна, *расейскім*. Але ж насамрэч сёньняшняя *татарска-чукоцкая паводле паходжаньня Расея — зусім не славянская Русь, а расейскі — не азначае рускі.* У гэтым яшчэ на пачатку стагодзьдзя былі перакананыя шмат хто зь вядомых беларускіх дзеячоў. Напрыклад, колішні старшыня Рады БНР Язэп Лёсік ды колішні старшыня ўраду БНР Вацлаў Ластоўскі.**



Вацлаў Ластоўскі

1883 - 1938



Язэп Лёсік

1883 - 1940

## Аб "славянстве" маскалёў

... Калянізацыя ўсходняе часткі вялікае ўсходнеэўрапейскае раўніны — гэта адна з самых велічэзных гістарычных падзеяў ува ўсёй сусьветнай гісторыі. Расейская навука сьціпла абыходзіць гэтую падзею. Прычына гэтага зразумелая: уся маскоўская славянафільская тэорыя распадаецца ў нішто, калі праўдзіва асьвятліць калянізацыю цяперашняе "Вялікарасіі".

У канцы VIII-пачатку IX стст. уся цяперашняя Маскоўшчына скрозь была заселеная фіна-мангольскімі плямёнамі. На той час мяйсцовасьць, дзе зараз стаіць "матушка Москва", была гэткай жа славянскай, як у 1700 годзе—тая мяйсцовасьць, дзе цяпер Пецярбург.

Аславяніўшыся ў беларусаў і ўкраінцаў, варагі пры падставе хрышчэньня заваёўваюць фінаў і манголаў і славянізуюць тыя зваяваныя плямёны, што жылі на берагох Акі, Волгі, Камы, Пячоры, Дону.

Але маскоўскаму ўраду за тысячу год не ўдалося зусім абмаскаліць тамтэйшае жыхарства. Нават афіцыйна прызнаецца, што ў "истинно русских" губэрнях маецца дагэтуль "нерусское население". У Цьвярской, Ніжагародзкай, Пэнзэнскай, Тамбоўскай і іншых губэрнях аказваюцца цэлыя воласьці, заселеныя карэламі, мардвой, чарамісамі, татарамі, мяшчэрай і іншымі, далёка не славянскімі плямёнамі! Адно ў Маскоўскай губэрні "туземное инородческое население исчезло без следа". Гэта азначае, яно прыняла зь вялікарускай мовай і праваслаўем прыблізны вялікарускі выгляд, застаючыся паводле крыві фіна-манголамі.

Што цяперашняя "Вялікарасія"— не славянскі край, сьведчыць ня толькі неславянскі тып вялікарусаў (параўнайце менчука й пэнзэнца: дзьве зусім розныя расы людзей!), але й неславянскія геаграфічныя найменьні. Нават Волга носіць фіна-мангольскі назоў!

Вялікарусы — гэтая мешаніна варагаў, беларусаў, украінцаў і на 99 % фінаў і татараў — выдаюць сябе за "истинно славян" толькі каб апраўдаць свае імпэрскія памкненьні.

*Вацлаў Ластоўскі, 1920 г.*

## Беларусь мае права на першынства

... Беларусь ляжыць у гэткай мяйсцовасьці, якая, як падаюць навукоўцы, зьяўляецца прарадзімай калі ня ўсіх славянаў, то, прынамсі, бліжэйшых сваіх славянскіх суседзяў. Беларусы — адзінае славянскае племя (за выключэньнем хіба палякаў), якое спакон веку жыве ў сваім краі, ні адкуль сюды не прыйшло, але й не ўвабрала ў сябе чужых гэтаму племю элемэнтаў. Дзеля гэтага беларусы паводле гістарычных і этнаграфічных асаблівасьцяў у найбольш чыстым кшталце захавалі славянскі тып і ў гэтым сэнсе заслугоўваюць асаблівага антрапалягічнага, этнаграфічнага ды лінгвістычнага баданьня.

Беларусы вядуць свой род ад старажытных плямёнаў Крывічоў і Дрыгавічоў, якія, павэдлуг гістарычных дасьледзінаў, першыя паклалі пачатак дзяржаўнасьці сярод славянскіх плямёнаў, што расьсяліліся па ўсходняй Эўропе, і першыя дасталі найменьне *рускіх*. (...)

Праўдзівей за ўсё, што, як думаюць навукоўцы, Русьсю ў пачатку зваўся гурток кіраўнічых людзей, маўляў, "белая костка", "лепшыя людзі", князі. Адгэтуль відаць, што назоў Беларусь (Белая Русь) азначае Русь старэйшую, кіраўнічую, маючую права на першынства...

*Язэп Лёсік, 1919 г.*

## Больш рускія

... Ніякія мы , беларусы, ня балты, як пісаў С. Паўлоўскі ў 88-ым нумары "Нашае Нівы", а славяны, да таго ж славяны рускія, і ня менш, а мабыць і больш рускія за любога маскаля. І таму ў дачыненьні да беларусаў і ўкраінцаў нельга ўжываць такіх словаў, як "русификация" й "обрусевшие", бо гэта ёсьць нонсэнсам. А трэба казаць: "абмаскальваньне" ды "абмаскаленыя", як казаў Кастусь Каліноўскі, бо "маскаль"— гэта гістарычны назоў нашага "старэйшага брата" (дарэчы, яшчэ адзін навязаны нам стэрэатып) у нашай мове, без усялякае абразы для іх.

*Ігар Казакоў, "Наша Ніва", 1998 г.*

# Правадыр «сэксотаў»

Ацэнкі палітычнае постаці кіраўніка БПСМ далёка не адназначныя: палітра эпітэтаў вагаецца ад “моладзевага фюрэра” да “чарговага лёкая рэжыму”. Між тым, чалавечыя рысы , збольшага, вызначаюцца ў маленстве. А, як сьцьвярджае Ўсеваладава колішняя мачыха, сёньняшні ягоны псыхічны стан шмат у чым тлумачыцца менавіта юнацкімі паводзінамі. “Хто бачыць мінулае, убачыць і будучыню”. Той, хто знойдзе Ахілесаву пяту ваўкалака, лёгка верне яго ў чалавечы стан і пераможа. Ня трэба лічыць прасьцяком таго, хто “палітычна будзе вагацца толькі ўсьлед за ваганьнем прэзыдэнцкае лініі”.

Цяпер слова экс-жонцы бацькі Ўсевалада Янчэўскага: “Усе жыцьцёвыя прынцыпы закладваюцца бацькамі. Сева ж гадаваўся бяз маці й усе маральныя асновы атрымаў ад бацькі, Вячаслава Янчэўскага. Даволі няўдалы лёс апошняга — маючы вельмі таленавітыя матэматычныя здольнасьці, ён усяго толькі працаваў на катэдры геамэтрыі — наклаў адпаведны адбітак на ягоныя адносіны зь людзьмі. Нерэалізаванасьць Янчэўскага-старэйшага вылілася ў высокую самаацэнку. Яму здавалася, што геніяльнасьць Янчэўскіх для ўсіх відавочная. Калі нехта быў ня згодны з гэтым — рызыкаваў натрапіць на канфлікт.

Вячаслаў на працягу жыцьця быў неаднаразова жанаты, але трывалае сям’і ня складвалася. Яму вельмі хутка надакучвалі людзі, бо ня ўсе былі гатовыя падпарадкоўвацца ягонай волі.

Маючы зносіны з рознымі новымі пасіямі бацькі, Сева навучыўся быць гнуткім. Ён не займаў канкрэтны бок падчас спрэчак. Адкрыта ня браў бок бацькі, нават недзе не згаджаўся. Бацька ж меў да сына толькі невымяральную любоў. Менавіта моцная падтрымка ды паразуменьне бацькі й сталіся ўрадлівай глебай для будучае нахабнасьці.

У свае 16 гадоў Сева ставіўся да аднагодкаў непрытоена пагардліва. Усімі дзеяньнямі стараўся паказаць, што ён разумнейшы, больш таленавіты за кожнага зь іх. Крэда Севы ў стасунках зь людзьмі: вакол усе дурні, і іх трэба прымушаць абслугоўваць свае патрэбы й інтарэсы. У яго генэтычна была закладзеная нянавісьць, ён нават бацьку палохаў сваёй жорсткасьцю.

І да дзяўчатаў у Севы гэтаксама было адмысловае, ненатуральнае стаўленьне: як і бацьку жанчыны, дзеўчыны надакучвалі Ўсеваладу ймгненна. У іхнай сям’і йснаваў культ адзінае жанчыны — маці Вячаслава Іванавіча, якая жыла цяжка й бедна, выхоўвала Вячаслава й ягоную сястру адна. У яе выпрацавалася навязьлівая думка, што трэба “выбіцца ў людзі” любым шляхам.

Усіх насьцярожвала незьнішчальнае жаданьне Севы праштудыраваць творы Гітлера. Бацька не аднойчы гаварыў зь ім з гэтае нагоды. Апроч гэтае цікавасьці Сева асабліва не захапляўся мастацкай літаратурай. Іншая справа, што ў дзяцінстве бацька шмат зь ім займаўся, нашпігоўваў па розных дысцыплінах.”

У Янчэўскага з маленства выпрацавалася гнуткасьць і ймкненьне загадваць і падпарадкоўваць. Гэтыя якасьці й паклалі падмурак рысам будучага асабістага й палітычнага жыцьця барысаўскага хлопца Ўсевалада Янчэўскага, які ўжо зараз прэтэндуе на авалоданьне розумамі беларускае моладзі.



# Храм сатаны

*Алесь Віталёнак*

Сёньняшнія апалягеты камунізму сьцьвярджаюць, што ленінскі Маўзалей, нібыта нясе ў сабе сымболіку хрысьціянскага храму й што Ленін пахаваны па-хрысьціянску — ніжэй за ўзровень зямлі. Бадай, трэба ўнесьці зразумеласьць у шматгадовую спрэчку аб лёсе бальшавіцкага склепу.

Маўзалей у ягоным сёньняшнім выглядзе быў збудаваны ў 1930 годзе паводле праекту архітэктара А.Шчусева. Дагэтуль на тым самым мейсцы стаяла драўляная пахавальня. Першапачатковы драўляны маўзалей звонку вельмі нагадваў вядомы паганскі Вялікі алтар Зэўса, знойдзены ў Малой Азіі ў Пэргаме ў канцы 19 ст. Менавіта пэргамскі алтар быў узяты за аснову пры праектаваньні ленінскага склепу, аб чым сьведчаць эскізы самога архітэктара. Гэта той самы алтар, які вядомы тым, што ўзгадваньне аб ім, як аб прастоле Сатаны, сядалішчы Сатаны, утрымоўваецца ў Бібліі.

І не выпадкова ў якасьці пахавальні для Леніна быў узьведзены склеп у выглядзе Пэргамскага алтара-прыстанку Сатаны. Істота, чыімі ўлюбёнымі псэўдонімамі й партыйнымі мянушкамі былі: Антыхрыст, Люцыфэрыч, Цар Ірад, Бафамэт і, цалкам заслужыла права ляжаць пад скляпеньнямі "прыстанку Сатаны". Гэткі быў містычны сэнс пабудаванае камуністамі ля крамлю пахавальні.

У 1930 г. апошняя была разабраная, а на ейным мейсцы ўзьвялі гранітную прыступкавую піраміду — твор, гэтак жа раней невядомы хрысьціянскай архітэктуры, аднак шырока распаўсюджаны ў іншых — дэманічных культах (Эгіпэт, Старажытны Ўсход, Амэрыка й г.д.). Усе гэтыя культы зьяўляліся рэшткамі некалі адзінага сатанінскага рытуалу, што йснаваў у глыбокай старажытнасьці.

Вялікае значэньне ў сатанінскім вучэньні надавалася абраду муміфікацыі памерлых. Пасьлядоўнікі д'ябальскіх культаў імкнуліся захаваць пасьля сьмерці сваю фізычную абалонку, верачы ў магчымасьць ейнага ўваскрашэньня ў будучыні, бо, згодна акультавай традыцыі, лічылася, што душа можа вярнуцца ў захаванае цела, калі яна ўвесь час прывязаная да яго.

Але ёсьць і яшчэ адна, бадай, самая важная прычына, паводле якое пасьлядоўнікі цёмных культаў муміфікуюць памерлых: як вядома, д'ябал заўсёды спрабуе капіяваць творы Бога, але намаганьні гэтыя ўбогія й нікчэмныя. Адной з прыкметаў сьвятасьці чалавека ёсьць нятленнасьць пасьля сьмерці парэштак ягонага цела. Такіх людзей называюць сьвятымі. Іхны дух пасьля сьмерці, пасланы Богам, працягвае нябачна прысутнічаць на Зямлі, робячы дабро. Да ягонае абароны й дапамогі зьвяртаюцца вернікі ў цяжкія моманты жыцьця праз малітвы й рэлігійныя абрады.

Ня маючы магчымасьці прыдбаць натуральным шляхам гэткіх абаронцаў, жрацы Сатаны ствараюць іх штучна, пераўтвараючы ў муміі самых выбітных і вядомых прадстаўнікоў свайго чартоўскага племя. Згодна акультавых поглядаў, душа альбо нейкая энэргетычная субстанцыя, што застаецца пасьля сьмерці гэткага забальзамаванага монстра, зьмешчанага пад скляпеньнямі піраміды, зьяўляючыся прывязанай да захаванага цела, пазьбягае Боскага суду й пакараньня за свае злачынствы пры жыцьці. Дапамагаючы жрацам Люцыфэра ў іхных цёмных справах увесь гэты час, яна выконвае функцыі пасярэдніка між Сатаной і ягонымі памагатымі на Зямлі.Менавіта ўсталяваньне й падтрыманьне гэтае двубаковае сувязі зьяўляецца адной з галоўных задачаў жрацоў Сатаны. Велізарнае значэньне пры гэтым надаецца разначынным рытуалам і абрадам, нават з чалавечымі ахвярамі, мэта якіх — няспыннае "падсілкоўваньне" сатанінскага духу муміі-пасярэдніка энэргіяй тых, хто моліцца, і рытуальна забітых. Гучныя й частыя ўхваленьні памерлага, масавыя шэсьці або сьвяткаваньні ў ягоны гонар, усялякае падмацаваньне бязьмежнае веры ў д'ябальскага пасланца, узмацненьне ягонага аўтарытэту сярод жывых, магічныя заклінаньні — усё гэта служыла адной мэце — прымусіць народ дэлегаваць сваю энэргію забальзамаванаму монстру, зьмешчанаму ў пірамідзе, што акумулюе й узмацняе гэтую энэргію, і, "падсілкаваўшы" ідала нябачнай моцай, замацаваць тым самым праз д'ябальскага пасланца ўладу Цемры ў дадзенай мяйсцовасьці. Гэткая тэхналёгія старажытнага сатанінскага абраду.

Адметна, што пасьля ўсталяваньня свае ўлады, поўнага зруйнаваньня царквы й пахаваньня свайго правадыра, камуністы ствараюць новую рэлігію з усімі адпаведнымі ёй атрыбутамі. Замест Храмаў адчыняюцца дамы палітасьветы, ленінскія пакоі й чырвоныя куты. Замест Хрыста й апосталаў — "непагрэшныя" Ленін і сябры Палітбюро, чые выявы замяняюць сьвятыя іконы, замест Хрысьціянскіх крыжоў — сатанінскія пяцікутныя зоркі, замест Сьвятых пісаньняў — працы ідэолягаў камунізму…

# Варта культывавацьупэўненасьць



*Вадзім Канапацкі*

Апошнім часам ледзьве ня кожнаму маладафронтаўцу даводзіцца зьбіраць подпісы ў падтрымку нечага ці некага. Рэаліі нашага йснаваньня пэрыядычна даюць падставы для працягненьня гэтага марафону. Праз зборшчыка праходзіць вялізная чалавечая маса, кожны зь якое мае свой нораў. Але ёсьць шмат агульнага. Вылучыўшы супольныя рысы, атрымоўваецца цікавы малюнак.Першая група —"адыходы грамадства"— мае маргінальны мэнталітэт і гатовая плясакаць у ладкі любому дэмагогу. Стандартавы адказ на прапанову падпісацца: "Няма чаго парушаць закон (пераходзіць мяжу, пісаць на сьценах…)". Сустракаюцца й відавочныя нашчадкі тых, хто ў 30-ых пісаў даносы на суседзяў. Гэткія з паскудненькімі ўсьмешачкамі пагражаюць здаць міліцыі, але твая ўпэўненасьць мае заторкнуць вужакаву ляпу, і на твары твайго "апанэнта" высьвечваецца малапрытоены "аблом". На пікетаваньнях гэтая група больш бясьпечная: яны падыходзяць да міліцыянтаў, шэпчуцца й бягуць па сваіх справах альбо, стоячы наводдаль, з пачуцьцём выкананага абавязку крывяць сумную міну, калі нехта падпісваецца. Самае цяжкае пры сутыкненьні з такімі — трымаць сябе ў руках.

Другая, самая вялікая група — гатунак небарак — складае каля 70 адсоткаў ад насельніцтва. Гэта кранічна запалоханыя людзі, плён 80-гадовага культываваньня homo soveticus. Іхны мозг скаваны ланцугамі неПераадольнага страху. Большасьць мае сфармаваную думку, але страх не дае магчымасьці ейнае рэалізацыі. На прапанову асноўная частка трушком уцякае. Калі няма куды бегчы, шукаюць апраўданьне: "Нічога ня ведаю", "Мабыць, яны забілі каго-небудзь". Найбольш шчырыя кажуць наўпрост: "Мы з вамі, але падпісваць ня будзем". Маючы каліўца натхненьня, почасту можна аслабіць разумовыя ланцугі. Асабліва, калі яны бачаць, што й іншыя падпісваюцца: большасьць жыве паводле прынцыпу "я — як усе". Мо, нам варта ствараць масоўку?

Трэйцяя група - вяршкі грамадства - дае каля 80 адсоткаў ад подпісаў. Яны добра арыентуюцца ў вірох палітыкі, маюць акрэсьленую пазыцыю. Гэтыя лёгка пераадольваюць інстынкт самазахаваньня й ахвотна падпісваюцца, звычайна напалову жартуючы: "Усё роўна пасадзяць". Трапляюцца рэлікты, што без пытаньняў бяруць асадку й выводзяць на аркушы свой росьпіс, нават не пасьпееш апавесьці пра мэты.

Асноўная праблема, зь якой сутыкаесься - кранічная баязьлівасьць жыхарства. Людзі згубілі надзею, што могуць паўплываць на ходу падзеяў. І чым больш апазыцыя ў пагоне за "карцінкай" будзе маляваць усё ў змрочных фарбах, тым больш людзей будзе сыходзіць у маргінальную міжгрупоўку з далейшым "паніжэньнем статусу". Шквальнае нагнятаньне істэрыі выклікае адваротную рэакцыю: замест актывізацыі людзі глыбей забіваюцца ў норы, што дае ілюзорнае адчуваньне бясьпекі. Усё часьцей пачуеш прапанову замацаваньня ў грамадзкай думцы атаясамленьня рэжыму зь сьмерцю, абгрунтоўваючы тым, што формула "Расея-вайна-сьмерць" дала свой плён. Але, добра спрацаваўшы ў свой час, гэта амаль напэўна прывядзе да ўзмацненьня апатыі й страху. Таму трэба ствараць вобраз рэжыму як агіднага, пачвар-нага, але нежахлівага. Варта культываваць упэўненасьць ды абнадзейваць людзей. Тады беларусы й пяройдуць ад маўклівае падтрымкі да Дзеяньня ў. Не малалікай купкай інтэлігентаў, але ўдарамі ўзьнятых масаў зруйнуецца рэжым.

---

## ПАЧАТАК

І ўсё гэта для таго, каб, напоўніўшы энэргіяй Антыхрыста й ягоных служкаў, умацаваць містычную й палітычную ўладу антыхрысьціянскага рэжыму, а гэтаксама сатанінскі дух, які запанаваў у СССР. Той жа мэце служылі магічныя заклінаньні, кшталту: "Ленін жыў, Ленін жывы, Ленін будзе жыць!" і бясконцыя словы адданасьці памерламу правадыру.

Зьбіраючы падчас сьвяткаваньняў шматтысячныя натоўпы перад прыступкавай пірамідай свайго куміра, жрацы камунізму, быццам ацтэкція жрацы Сатаны, уважліва назіралі зь ейнае вяршыні за запалоханым, пераўтвораным у маўклівае быдла й удзячным за гэта народам, які жывіў сваёй жа жывёльнай радасьцю моц скарыўшага яго сатанінскага духу.

І пакуль дух Антыхрыста нябачна прысутнічае каля непахаванага цела, працягваючы несьці няшчасьці й разбурэньні, у сьвеце ня будзе ні міру, ні спакою, ні дабрабыту.

А для таго, каб спыніць сатанінскі рытуал пакланеньня непахаванаму трупу й пазбавіць сьвет ад духу Антыхрыста, неабходная толькі наяўнасьць палітычнае волі. Казкі ж ірадаў (гэтак нядаўна памерлая славутая Ванга называла расейскіх камуністаў) аб непазьбежным пракляцьці й хуткай сьмерці кожнаму, хто ўздыме руку на сядалішча Сатаны — усяго толькі перадсьмяротны крык адчаю напаўпрыціснутага ўпыра, над якім занесеная асінавая паля.

**Вялікі Боскі суд — непадуладны сатанінскім вядзьмарствам!**

# КРАІНА ЦМОКА:

## ДОСЬВЕД ЗМАГАНЬНЯ ЗА МОВУ Й НЕЗАЛЕЖНАСЬЦЬ




Вінцук Вячорка

**На гербе й сьцягу Валіі (Уэльс, Wales) — чырвоны цмок. Сымпатычны старажытны цмок: відаць, калісьці такія вадзіліся і ў нас, і менавіта такі начамі выплывае на паверхню возера Лох-Нэс, што ў братняй валійцам Шатляндыі. Цмок — на бела-зялёным тле, а зяляніна ўзялася ад цыбулі-парэю, якой ад старажытнасьці кельты пазначалі свае латы. Так што чырвона-бела-зялёная гама тут не павінна навяваць беларусу ўсякія нехарошыя асацыяцыі.**

### МОВА І НАРОД

Валійская мова надзвычай старажытная. Яна адносіцца да брытонскай галіны кельцкай групы індаэўрапейскай сям'і і беларускай мове даводзіцца вельмі далёкаю сваячкаю. Мова самабытная, зь нязвыклымі для бальшыні эўрапейскіх моваў гукамі (глухое ll, язычковае ch) і зь цяжкімі для невалійца правіламі злучэньня словаў (пачатны зычны слова можа мяняцца залежна ад папярэдняга слова; так, назоў краіны мае варыянты Cymru — чытаецца прыблізна Камрі, Gymru і Nghymru). Валійская мова абсалютна незразумелая для непадрыхтаванага ангельца (а таксама француза, немца, беларуса і г.д.).

Мода на кельцкае, што пэрыядычна захліствае Эўропу (рамантызм XIX стагодзьдзя, кнігі Толкіена і рокстылізацыі нашага часу), пераважна зьвяртаецца да ірляндзкай, радзей да шатляндзкай спадчыны, абыходзячы ўвагай гэтую непрыкметную паўвыспу, зьвернутую ў Ірляндзкае мора. Кельцкія продкі валійцаў жылі на высьпе спрадвеку. «Той самы» кароль Артур — валіец. Калі на выспу высадзіліся германцы — англы, саксы — валійцы мужна баранілі сваю краіну да апошняга. Але яны не будавалі замкаў, а ангельцы перанялі ў рымлянаў гэтую карысную завядзёнку. І не дапамагло тое, што валійцы раней прынялі хрысьціянства, раней пачалі пісаць на роднай мове, раней пераклалі Біблію... Яны здаліся ў XV стагодзьдзі. Іхная краіна стала першаю каленіяй Брытаніі. Арыстакратыя ўлілася ў ангельскую стыхію, а сяляне й рыбакі захавалі сваю нацыянальнасьць і, наколькі змаглі, мову.

Індустрыялізацыя XIX стагодзьдзя прынесла патрыярхальнай Валіі новыя беды. Знойдзеныя на паўднёвых роўнядзях вугаль і руда ператварылі краявіды поўдню краіны ў месяцовы ляндшафт. Як грыбы, павырасталі шахтарскія мястэчкі з стандартнай забудовай, якую так і хочацца назваць «віктарыянскімі хрушчоўкамі». Заштатны паўднёвы Кардыф (Caerdydd!) дарос да сталічнага статусу. Натуральна, індустрыялізацыя азначала англізацыю (тут была б да месца паралель не зь Беларусьсю, а з Усходняй Украінай). Толькі Поўнач ды горы захоўвалі мову і нацыянальны дух (зноў-такі алюзія — да Заходняй Украіны).

### PLAID CYMRU

Партыя Plaid Cymru («Валійскі выбар») незалежніцкая, нацыяналістычная, ваяўніча валійскамоўная. Вядзе пачатак з 20-х гадоў. Як і многія меншасьцёвыя партыі ў сучасным заходнім сьвеце, схільныя хутчэй да левізны. Гэта зразумела: ад пачатку Plaid Cymru была выразьніцай інтарэсаў валійскіх рабочых і дробных прадпрымальнікаў, бо тыя, хто зрабіў грамадзкі аванс, пераставалі лічыць сябе валійцамі ды інтэграваліся ў брытанскую верхавіну.

Ушчаміцца паміж асілкамі брытанскага двухпартыйнага дужаньня — кансэрватарамі й лейбарыстамі — наагул вельмі цяжка, а нацыянальным партыям асабліва. Але Plaid Cymru мае пяцёх дэпутатаў у Каморы Грамадаў (House of Commons) брытанскага парлямэнту і спадзяецца на трыюмф у першых выбарах у Нацыянальную Асамблею Валіі.

Выканаўчы Старшыня Plaid Cymru сп.Karl Davies суст-

рэў нас з Алесем Міхалевічам у кардыфскай сядзібе партыі каваю з валійскім печывам. Калі ён пачаў гаварыць, мне здалося, што чалавек мае нейкія моўныя хібы: расьцягвае словы, нязвыкла моцна артыкулюе ангельскія гукі. І не адразу да мяне дайшло: гэта ж магутны валійскі акцэнт, можа, нават дэманстратыўны.

Я спытаў Davies'а наўпрост: Plaid Cymru — за незалежнасьць? Але перада мной сядзеў спрактыкаваны палітык, які добра ведаў, што кожная тэза мусіць быць адкрыта сфармуляваная не раней, чым калі яна добра насьпее. Davies адказаў больш-менш гэтак: мы, валійцы, — адметны народ з сваёй гісторыяй, мовай і традыцыямі. Мы крок за крокам умацоўваем свае ўласныя палітычныя інстытуты: кагадзе дамагліся скліканьня Асамблеі. Мы, валійцы, — эўрапейцы; мы ўваходзім у эканамічную, палітычную, праўную прастору аб'яднанай Эўропы; мы нясем Эўропе наш валійскі ўклад і маем права разьлічваць на адпаведнае прадстаўніцтва валійскіх інтарэсаў ува ўсіх эўрапейскіх структурах... (І Лёндан, дадам ад сябе, становіцца тут як бы ні пры чым...)

Словы майго суразмоўцы пацьвярджаюцца шматлікасьцю валійскіх прадстаўніцтваў у Брусэлі (Wales European Centre) і Страсбургу, а таксама мноствам эўрапейска-валійскіх арганізацыяў у самой Валіі (European Commission Representation, Wales Euro Info Centre, European Centre for Traditional and Regional Cultures, European Bureau for Lesser Used Languages). Сапраўды, эўрапейская інтэграцыя дае нечаканы для ейных ініцыятараў пабочны вынік: недзяржаўныя народы, што даўно змагаюцца за сваю незалежнасьць ад старых і закарэлых мэтраполіяў, энэргічна выкарыстоўваюць эўрапейскую рыторыку ды палітычныя й фінансавыя мэханізмы для паслабленьня залежнасьці ад гэтых мэтраполіяў.

## АКТ АБ ВАЛІЙСКАЙ МОВЕ

Адпаведна перапісу 1991 г., 510920 (18,7%) насельнікаў Валіі гаварыла па-валійску. Гаварыла — значыць валодала ў нейкай ступені валійскаю мовай. У выніку працяглае барацьбы параўнальна невялікай купкі нацыянальна сьведамых валійцаў за правы роднае мовы ў 1967 годзе Лёндан быў змушаны прыняць The Welsh Language Act — Акт аб валійскай мове, які надаваў валійскай мове вельмі абмежаваныя правы ў дзяржаўным сэктары (права карыстацца валійскаю моваю ў судох). Новы Акт аб валійскай мове быў прыняты ў 1993 годзе. За 26 гадоў зроблены велізарны крок наперад. Новы Акт спрыяе ўжываньню валійскай і надае ёй роўны статус з ангельскай у дзяржаўным сэктары.

Акт зыходзіць з традыцыйна прынятага ў дэмакратычных грамадзтвах падзелу ўсяе грамадзянскае супольнасьці на тры сэктары: дзяржаўны (г.зн. дзяржаўныя ўстановы), прыватны (бізнэс) і недзяржаўны, або дабрахвотніцкі (няўрадавыя некамэрцыйныя грамадзкія арганізацыі). На бізнэсовую сфэру дзеяньне акту распаўсюджваецца толькі ўскосна (але ёсьць эфэктыўныя мэтады барацьбы за мову і тут, пра што ніжэй). Затое ўсе дзяржаўныя ўстановы і тыя грамадзкія арганізацыі, што разьлічваюць на спрыяньне і дапамогу з боку дзяржавы і мясцовых самаўрадаў, мусяць пільнавацца акту. Кожная ўстанова перадусім была забавязаная ўкласьці г.зв. «Схему валійскае мовы», г.зн. ідэалягічныя й мэтадычна-арганізацыйныя падставы ды графік укараненьня мовы ў сваю практыку. Для палягчэньня гэтае працы напісалі ўзорную Схему. Складанай задачай было апісаньне адраджэнцкіх мэтаў пры дапамозе словаў і выразаў, супраць якіх ня мог бы запярэчыць ніводзін брытанскі (і наагул заходні) «демократ вообўе». Вось як гучыць пачатак такой Схемы для цэнтру грамадзкіх арганізацыяў грабства Merthyr.

«Чаму для Merthyr Lvs патрэбная Схема валійскае мовы?

1. Каб закласьці прынцып недапушчэньня ўціску кліентаў.

Апошнія некалькі гадоў дабрахвотніцкія арганізацыі станоўча паставіліся да патрэбы грунтаваць дачыненьні з кліентамі на падставе роўнасьці й адкрытасьці. Кожны крок, скіраваны на недапушчэньне дыскрымінацыі ды ўсталяваньне эфэктыўных узаемадачыненьняў, мусіць цалкам улічваць і моўнае пытаньне.

Пяць прынцыпаў недыскрымінацыйнае практыкі

* Кліент мае права выбіраць мову.

* Мова ёсьць часткаю сутнасьці чалавечае асобы.

* Асобе лягчэй выказваць пачуцьці абранаю моваю.

* Сутнасьць добрай практыкі — даць кліенту рэальны выбар ужываньня мовы.

* Адмаўленьне гэтага права ёсьць спосаб уціску кліента».



У грабстве Merthyr размаўляюць па-валійску (г.н. валодаюць мовай) ад 6,1 да 10,7 адсоткаў, што аўтары «Схемы» камэнтуюць наступным чынам: «Хоць гэткі адсотак можна разглядаць як невялікі, аднак ён складае паважную колькасьць людзей». Сапраўды, праблемаў з ангельскай мовай у Валіі няма. І, такім чынам, пад адназначна дэмакратычнаю тэзаю «рэальны выбар» РЭАЛЬНА маецца на ўвазе прэфэрэнцыя валійскай мове. Кожны дзяяч і кожная службовая асоба, што сутыкаецца зь людзьмі, абавязаны: валодаць валійскаю (г.зн. падвучыць або вывучыць яе); адназначна, прыязна і загадзя даць зразумець кожнаму кліенту, што той можа гаварыць па-валійску і атрымае адказ на гэтай мове; мець поўны камплект нутраных дакумэнтаў і блянкаў ці фармуляраў для кліентаў на валійскай.

***працяг у наступным нумары***

# НАДЗЕЙНЫМ ШЛЯХАМ

Напачатку 1998-га году палітычная сітуацыя ўва Усходняй Эўропе пачынае набываць трываласьць. Актыўная дзейнасьць знешнепалітычнага дэпартамэнту Расейскае Фэдэрацыі прынесла пэўны плён толькі датычна крызысу вакол Іраку. Яўген Прымакоў, відавочна быў расчараваны вынікамі перамоваў Расеі з Вугоршчынай. Пасьля гэтага візыту пэрспэктыва далучэньня ў NATO Чэхіі, Польшчы й Вугоршчыны ўяўляецца досыць акрэсьлена. Тым больш, усе вышэйзгаданыя кандыдаты пагадзіліся рэгулярна сплочваць складкі за сяброўства ў гэтым вайсковым блёку.

Безумоўна, гэтыя акалічнасьці яскрава адлюстроўваюць паразу расейскае дыпляматыі, але яна пакуль не канчатковая. Апошняя кропка будзе пастаўлена толькі тады, калі аптымальна актывізуюцца намаганьні ЗША у адносінах да паскарэньня інтэграцыі дзяржаваў Балтыі з эўрапейскімі палітычнымі вайсковымі структурамі.

Выбары ў Летуве паказалі, што расейскі ўплыў згубіў свае апорныя зоны ў балтыйскім рэгіёне наогул. Якраз Летува мела да гэтых выбараў на прэзыдэнта горшыя шанцы на ўступ у NATO, чым Ляцьвія ці Эстонія, бо стасункі гэтых дзьвюх дзяржаваў з Расеяй даўно набылі чыста фармальны характар. Трэба адзначыць, што прэм'ер-міністар Расеі В.Чарнамырдзін неаднаразова заяўляў, што ягоная краіна ня можа дазволіць, каб Прыбалтыка апынулася ў сфэры ўзьдзеяння Захаду, асабліва NATO. Натуральна, Расея йдзе на дыялёг з Хаўерам Саляна выключна з мэтаю заключэньня пагадненьня, дзе б NATO гарантавала інтарэсы Расеі адносна Летувы, Ляцьвіі дый Эстоніі. Але, зразумела, што бяз згоды ЗША NATO ніколі не падпіша з Расеяй падобнае дамовы.

Інтарэсы нашага нацыянальна-вызвольнага руху увесь час мяжуюцца зь інтарэсамі нашых хаўруснікаў на Украіне. У выпадку перамогі Народнага Руху на чале зь Вячаславам Чарнавілам, становішча на Украіне зьменіцца зусім не на карысьць Расеі й дыктатарскага рэжыму на Беларусі. Калі НРУ атрымае манапольную перавагу у парляманце, можна будзе разьлічваць на тое, што Украіна таксама ўвойдзе у лік кандыдатаў на сяброўства ў NATO. Гэткая хада падзеяў, на жаль, малаверагодна, але яна прывяла б Расею да незваротнае страты рычагоў маніпуляваньня палітыкай ува Усходняй Эўропе, што канчаткова ізалюе рэжым прэзыдэнта Лукашэнкі й пазбавіць магчымасьцяў чаканьня на дапамогу ад «старэйшага брата».

У адрозьненне ад рэжыму, мы можам спадзявацца на актыўную падтрымку суседзяў, нават калі Украіна ня хутка скончыць працэс зьнішчэньня свае «пятае калёны», супраціў якое цяпер заўважна ўзрос. Гэта падцьвярджваюць сацыялягічныя досьледы, дзе далёка не апошні радок займае блёк «левых» партыяў.

Такім чынам, ідэя Чарнаморска-Балтыйскага палітыка-эканамічнага хаўрусу можа пераўтварыцца ў рэальную моц. Тут абнадзейваць нас можа хіба пазыцыя афіцыйных колаў Рыгі дый Таліну, якія ў1997-ым годзе заяўлялі, што іхныя краіны зацікаўлены ў моцнай і незалежнай Беларускай дзяржаве.

Раман Альшэўскі

## абвестка

Койданаўская Рада МФ (Маскоўскага раёну) чакае на Цябе штоаўторак а $17^{30}$ на прыпынку «Шчорса» на вуліцы Чыгуначнай, ля белае сьцяны. Аўтобусы № 1, 6, 49, 81; тралейбусы № 8, 45, 47, 64.

Будзь разам з намі!

ГЭТА МЫ!
Выданьне заснаванае менскімі раённымі радамі Маладога Фронту №2(3), 1998г.
А.Міксовіч - галоўны рэдактар
Падрыхтоўка макета - Цэнтар "Выдавецкая ініцыятыва".
Шчыры дзякуй гэтаксама ўсім, хто спрычыніўся да выпуску газэты.
Меркаваньні аўтараў могуць не супадаць з пунктам гледжаньня рэдакцыі.
Адказнасьць за дакладную падачу зьвестак нясуць аўтары матар'ялаў.
Адрэса для допісаў: 220005, Менск, а/с - 64